

# Дзяньніца
# Dziannica

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ" ВЕРАСЕНЬ 2000 № 9



Дзесьці пад Новы, 1989 год, патрапіў мне ў рукі часопіс "Беларусь", на старонках якога апавядалася пра наш нацыянальны беларускі сьцяг і была зьмешчана яго выява. Чалавек спазнае сьвет у раннім дзяцінстве, а тут ужо далёка не юнак глядзеў на спалучэньне белага і чырвонага колеру і ўсьведамленьне таго, што гэта ёсьць сьцяг шматпакутнай Беларускай зямлі, поўнілі душу амаль дзіцячай радасьцю. Літаральна на наступны дзень мы з сябрам сшылі два такіх сьцягі і ў лютым 1989 году выправіліся зь імі ў Менск дзеля ўдзелу ў апазыцыйным мітынгу. Мітынг той ладзіўся на стадыёне "Дынама" і, да свайго зьдзіўленьня, я ўбачыў, што ўвесь стадыён быў уквечаны белым і чырвоным колерам.

Мінула пару месяцаў і на чарговую першамайскую дэманстрацыю я вырашыў выйсьці не з савецкім, як дагэтуль, а з нацыянальным сьцягам. Дакладней кажучы, напачатку дэманстрацыі я нёс сьцяг у сумцы, бо калі б адразу панёс у руках, міліцыянты маглі яго рэквізаваць. Але, калі да трыбуны заставалася колькі сот мэтраў, выцягнуў з сумкі складное дзяржальна, пачапіў палотнішча і сьцяг залунаў над людзкімі галовамі. Праходзячы ля трыбуны, я памахаў рукою тадышняму першаму сакратару наваполацкага гаркама партыі таварышу Панталёву, ён мне памахаў у адказ; пасьля дэманстрацыі мы з сябрамі сфатаграфаваліся і, задаволеныя, разышліся па хатах.

А праз колькі дзён на кватэру, дзе я жыў, два разы запар прыходзілі дружыньнікі, але мяне не засьпелі. Трэцім разам прыйшлі разам з участковым і ўручылі позву ў міліцыю. "А ў чым справа?" — запытаўся я, ставячы подпіс аб атрыманьні позвы. "Там даведаецеся", — адказаў участковы і зьнік за дзьвярыма. На наступны дзень, а дзесятай раніцы, прыйшоў у міліцыю і там мне абвясьцілі, што мною парушаны артыкул 167-2 Кодэксу ад Адміністрацыйных парушэньнях, бо падчас першамайскай дэманстрацыі выкарыстоўваў незарэгістраваную сымболіку і прапанавалі падпісаць пратакол. Калі я прачытаў той пункт кодэксу, дык убачыў: пра сьцягі там нават не было гаворкі. "Дык дзе пра тое напісана?" — пытаюся міліцыянта. Міліцыянт пачухаў патыліцу і паведаміў: "Прыходзь заўтра". Назаўтра са мной размаўляў начальнік міліцыі, але размова была кароткай. Азнаёміўшыся з пратаколам, начальнік міліцыі прамовіў: " Хай з гэтай сымболікай разьбіраецца адміністрацыйная камісія гарвыканкаму."

І камісія разабралася, прычым вельмі хутка, вызначыўшы мне штраф у 50 рублёў. Пра гэта стала вядома на заводзе, дзе я працаваў і таварышы па працы сабралі неабходную суму. Аднак штрафа я не плаціў і абскардзіў рашэньне камісіі ў судзе. Цэлых паўгода потым ішлі судовыя паседжаньні, рабіліся запыты ў Вярхоўны Савет БССР наконт таго — ці зарэгістраваны бел-чырвона-белы сьцяг, заслухваліся сьведкі. І, урэшце рэшт, у кастрычніку 1989 году прызначаны штраф у мяне вылічылі з зарплаты.

Прайшло дзесяць гадоў і ўсё паўтарылася. Людзей ізноў судзяць, судзяць за тое, што трымаюцца сваёй мовы, што любяць сваю зямлю, што падымаюць над галовамі незарэгістраваны ў бальшавіцкіх кандуітах сьцяг. Забываючыся, што ён назаўсёды зарэгістраваны ў беларускіх сэрцах.

*Ігар Мурашка*

*Зь гісторыі беларускіх імёнаў*

# ВІНЦЭСЬ І СЯРЖУК

Мне зь дзяцінства не падабалася маё імя — Віктар. Разглядаючы, так бы мовіць, ягоную сэмантыку, яго адпаведнасьць сваёй натуры, я кожнага разу адчуваў, што гэтае імя не маё і што яно выпала мне нейкім недарэчным чынам.

Зрэшты, так яно і было. Імя нарадзілася не ў бацькоўскіх галовах, а ў зашмальцаванай вайсковай фуражцы, а таму і было адрынута душою.

На наступны дзень па маіх народзінах — а нарадзіўся я ў Полацку — бацька мой, малодшы лейтэнант Савецкай Арміі, прыйшоў на службу з двума пляшкамі гарэлкі, ахвіцэры павіншавалі яго з нараджэньнем першынца, узялі па чарцы і па старой армейскай завядзёнцы сталі падбіраць імя. Дзеля гэтага напісалі на паперках уласныя імёны, кінулі паперкі ў фуражку і бацька, з наструненай усьмешкай на твары, выцягнуў Віктара. Пасьля таго майму "хроснаму", пад ухвальныя воклічы прысутных, давялося шыбаваць у краму яшчэ за двума пляшкамі.



І вось, працяўшыся ў няпоўных васемнаццаць гадоў беларускім духам, я мусіў паглыбіцца ў нетры анамастыкі і шукаць свайму імю беларускі адпаведнік. Калі б па той час пад рукой быў "Расейска-крыўскі слоўнік" Ластоўскага я б, відаць, ахрысьціў сябе Віктусём, але пра той слоўнік у 1971 годзе не было і почуту, таму давялося перабраць шмат варыянтаў аж пакуль на вочы не патрапіла назва аповесьці Барыса Мікуліча "Жыцьцяпіс Вінцэся Шастака". Імя Вінцэсь лагодзіла слых сваім мяккім канчаткам, які этнічныя расейцы ня ў стане вымавіць ( расейцы заўсёды кажуць: Вінцэс), да таго ж яно захоўвала пачатак першароднага імя, і, гэткім чынам, улетку AD MCMLXXI на Беларусі на аднаго Вінцэся стала больш.

Беларусызацыя імёнаў наогул справа ня зь лёгкіх. Памятаю, свойчас шмат пакутаў на гэтай ніве зьведаў Сяржук Сокалаў-Воюш — тады яшчэ проста Сяргей Сокалаў. Яму таксама муліла ягонае імя і ён спрабаваў надаць яму крыўскае гучаньне. "Серы, Сергусь, Сяржант..." — дзень да ночы мармытаў малады паэта, нарэшце, паехаў у Менск, на кансультацыю да Вінцука Вячоркі, але і той ня даў рады зьбеларусіць Сяргея.

Нарэшце, аднойчы ахвяра самабеларусызацыі ўваліўся да мяне ў кампаніі яшчэ аднаго Сяргея — Дубаўца, каб адведаць Анатоля Сідарэвіча, які прыехаў зь Менску ды захварэў і ляжаў у мяне на канапе. Мы ўчацьвярох сталі абмяркоўваць сокалаўскую праблему, нечакана за левым вухам у мяне штосьці шчоўкнула, мазгі ўраз прасьвятлелі і я гучна прамовіў: "Сяржук!" Запанавала няёмкая цішыня, якую парушыў неўзабаве спадар Сідарэвіч: "Ды што вы, бляха... сяр ды яшчэ і жук..." Пасьля такіх словаў дзядзька Анатоль хваравіта кашлянуў і кульнуўся на левы бок.

На наступным тыдні паэт, уздыхнуўшы, перапытаў: "Дык, кажаш, Сяржук?"

"Сяржук", — пераканаўча прагугнеў я ў адказ.

"Прозьвішча вось толькі расейскае, — працягваў сябрук, — трэба нейкі беларускі прыдомак... Як на твой слых — Сокалаў-Воюш — гучыць?"

"Гучыць,— кажу, — а Воюш, гэта адкуль?"

"Матчына прозьвішча, — суцішна прамовіў Сяржук і, памаўчаўшы, дадаў: — Продкі мае, няйначай, былі воямі".

А яшчэ праз пару тыдняў мы з Сержуком Сокалавым-Воюшам паехалі ў сталіцу, на сэмінар маладых пісьменьнікаў. У першы ж сэмінарны дзень, пабачыўшы ў Сержуковых руках сшытак, у які сябрук запісваў розныя бзікі і хохмы, я вялікімі літарамі напісаў на вокладцы: "Сшытак Сержука Сокалава-Воюша". Удзельнікі сэмінару раз за разам перачытвалі надпіс і ўрэшце рэшт прызналі такое імя геніяльным. На трэці дзень у Каралішчавічы, дзе адбывалася імпрэза, завітаў спадар Сідарэвіч. Пачуўшы, што ягонага наваполацкага знаёмца ўсе скрозь называюць "Сяр ды яшчэ і жуком", ён скрушна махнуў рукою, але нічога не сказаў. А дзесьці прыканцы васьмідзесятых Сержукі пайшлі касякамі і імя гэтае сталася адным з самых папулярных у асяродку беларускай моладзі.

***В. Гусянок.***



*Вінцэсь Мудроў*

# ДУРОНІК

**казка**

Летнім ранкам, калі сонца ўжо добра прыпякло, чмель Дуронік вылез з дупла і агледзеўся. Ад навальніцы, якая ўсю ноч шугала маланкамі і палівала зямлю дажджом, не засталося і сьледу і Дуронік задаволена перавёў дых. Ён выпрастаў крылы, каб прасушыць перад палётам, пачысьціў хабаток, ды пачуў раптам пранізьлівы плач. Плакалі недзе на доле, ля збуцьвелага пня. Дуронік хвіліну, а можа нават дзьве выглядаў — хто гэта там румзае, але нікога ня ўбачыў і зь цяжкім гудам зьляцеў долу. Ён плюхнуўся на жоўтую кветку курасьлепу, прыслухаўся.

Плакалі зусім побач.

— Гэй, хто тут румзае? — гучна запытаўся чмель.

Усхліпы адразу ж суціхлі і з-пад калянага кляновага ліста вытыркнулася чыясьці круглявая галава, дакладней, галоўка, бо была яна зусім маленькай.

— Гэта ты плачаш? — выгукнуў Дуронік.

— Я-а-а, — адказалі яму дрыготкім голасам і чмель, прыгледзеўшыся, ізноў перавёў дых: пад лістом сядзеў звычайны лясны мураш.

Дуронік страсянуў хабатком, маўляў, распавядай — што здарылася, і мураш, усхліпнуўшы, паведаміў:

— Увечары... як дождж залапацеў, я пад сухім лістом схаваўся. А яго ветрам...— у гэтым месцы мураш ізноў усхліпнуў, — падхапіла і сюды занесла. Цяпер і ня ведаю — дзе шукаць свой мурашнік, — небарака хацеў было ізноў заплакаць, але ў гэты міг чмель узьняўся ў паветра і з натужлівым гудам падляцеў да румзы.

Вецер учора і сапраўды задзьмуў як мае быць. Дуроніка магло і самога немаведама куды занесьці. Ды чмялі — істоты разумныя, яны пад лістамі хавацца ня будуць.

“Як жа румза патрапіць да дому?”— падумаў Дуронік і задуменна пачухаў лапкай свой пушысты каршэнь.

Канечне, можна было даляцець да мурашніку на тым жа сухім лісьце. Але пры гэтым вецер павінен быў дзьмуць у адваротны бок. Цяпер жа ветру зусім не было. Апанаваны такімі думкамі, Дуронік зьвесіў хабаток, цяжка ўздыхнуў і тут жа ўзрадавана прыхапіўся.

— Вось што... — выгукнуў ён, міжволі зумкнуўшы крыламі, — узлазь мне на карак і трымайся, што маеш сілы. Я тут непадалёку бачыў адзін мурашнік.

— А што — паляцім? — нясьмела запытаўся мураш.

— Ды не... папаўзем, — пажартаваў чмель і зь нецярплівасьцю страсянуў калматай, пакрытай чорнымі і жоўтымі валаскамі, сьпінай. — Давай хутчэй, а то мне самому дадому трэба.

Мураш узлазіў на сьпіну палахліва, на паўсагнутых лапках, а ўзьлезшы, спалохана схапіўся за чмяліны каршэнь. Дуронік перакрывіўся ад болю, але змаўчаў. “Абы трымаўся”, — падумаў чмель і ўзьняўся ў паветра.

Праляцелі яны зусім няшмат: мураш штосьці закрычаў, тузануў Дуроніка за левы вусік. Вусікі ў чмялей растуць каля самых вачэй і калі за іх тузануць, чмялі адразу злуюцца.

— Ну што там яшчэ? — незадаволена гукнуў Дуронік, пляснуўшыся жыватом на яловы пень.

— Крылы — так гудуць, што я нічога ня чую!

Словы такія пацешылі Дуроніка.

— Ну ты і дзівак. Калі я ня буду імі гудзець, дык мы нікуды не паляцім, — чмель сабраўся з сіламі, крыкнуў мурашу, каб той ямчэй трымаўся і з цяжкасьцю адарваўся ад пня.

Дуронік ляцеў, абмінаючы кусты і дрэвы, вельмі хутка выбіўся зь сіл і неўзабаве сеў адпачыць на вяршаліну ўсыпанага ружовымі кветкамі скрыпеню. І не пасьпеў ён зачапіцца лапкамі за лісьцік, як над ягонай галавой загулі дзьве ўвішныя пчалы.

— Што гэта ты, Дуронік, — зумкнула адна з пчол, — сам ледзь лётаеш, а яшчэ і мураша на сабе возіш?

— І як гэта ты, такі таўстун, у паветра ўздымаешся? — зумкнула другая і пчолы зь вясёлым сьмехам паляцелі ўпрочкі.

— Зумка і Зімка — жывуць на калгаснай пасекі, — патлумачыў чмель і, памаўчаўшы, дадаў: — Такіх дурніц няма ва ўсім белым сьвеце.

Пчаліныя кпіны сапсавалі настрой і чмель, уздыхнуўшы, пануры долу хабаток.

— А чаму вас Дуронікам завуць? — запытаўся мураш.

Чмель адказаў не адразу. Памаўчаў, яшчэ раз уздыхнуў.

— Празвалі, як быў маленькім...— буркнуў Дуронік:

— А ты мяне можаш зваць проста: дзядзька Чмель.

— А мяне таксама...— прамовіў мураш, ды ня скончыў фразы, бо над іхнымі галовамі завісла нейкая страшная істота, якая таксама зумкала крыламі і бліскала на сонцы пукатымі вачыма.

— Дуронік, дзе ты лётаеш? Цябе ўжо дома чакаюць, — крыкнула істота і зьнікла зь відавоку.

— Хто гэта? — запытаўся мураш.

— Аса Аліса, — чмель матлянуў галавой, загадваючы мурашу лезьці яму на сьпіну, і ўжо ў палёце прабубнеў: — Яшчэ адна дурніца.

**(працяг на стр.4)**

На гэты раз яны праляцелі зусім няшмат. Дуронік згадаў, што ад самага раньня нічога ня еў, а таму сеў падмацавацца на духмяную кветку канюшыны.Ён панурыўся ў кветку даўгім хабатком, глынуў нэктару, задаволена аддзьмуўся. Потым, глынуўшы яшчэ пару разоў, выціснуў з хабатка на ліст канюшыны маленькую кроплю салодкага нэктару.

— Пакаштуй, а то згаладнееў, лётаючы, — прамовіў Дуронік і мураш хуценька зьеў пачастунак.

— Смачна! — захоплена выдыхнуў мураш, які, відаць, ніколі ня еў такой смакаты.

— Гэта яшчэ штo-o... ты калі-небудзь чмяліны мёд каштаваў? — і мураш у адказ адно толькі горасна ўздыхнуў.

— Мы ня толькі мёд зьбіраем, але і кветкі апыляем, — з гордасьцю ў голасе паведаміў Дуронік.

— А навошта іх апыляць? — падзівіўся мураш.

— Ну ты і сапраўды дзівак. Калі іх не апыляць, дык ня будзе ні пладоў, ні насеньня.

Дуронік сьпехам пачысьціў хабаток.

— Вось гэтую кветку — яе канюшынай завуць — пасеялі ў Аўстраліі. Кветка вырасьце, а насеньня няма, бо не было каму апыляць. Доўга думалі — што рабіць? Аж пакуль нас, чмялей, не прывезьлі. Мы ім там усё ўраз і апылілі.

Чмель памаўчаў крыху, зьбіў лапкай жоўты пылок з грудзіны:

— За дзень, бывае, так наапыляесься, што дахаты ляціш ля самай зямлі і ўбокі матляесься.

Гісторыю гэтую Дуронік чуў ад старых чмялей і хаця сам ён у Аўстраліі ніколі ня быў і нават ня ведаў — дзе тая Аўстралія знаходзіцца, але кожнага разу распавядаў яе з такім выглядам, нібыта гэта яму, Дуроніку, давялося апыляць аўстралійскую канюшыну. Таму і ня дзіва, што мураш слухаў яго, раскрыўшы рот, і вочкі мурашыныя туманіліся ад захапленьня.

Падсілкаваўшыся, яны ўзьняліся ў паветра і паляцелі ў бок узьлеску. Яны праляцелі над лясной лугавінай, далі кругаля над невялічкай перасохлай імшарай і ў гэты момант Дуронік убачыў рудога мураша, які таропка бег па мурашынай сьцежцы. Крыху далей, па той жа сьцяжыне, бегла яшчэ два мурашы.

— Бачыў!? — крыкнуў Дуронік і радасна плюхнуўся на прысыпаную хваёвай ігліцай зямлю.

— Мурашы бягуць — яны табе дарогу пакажуць, — задыхана выпаліў Дуронік і выпрастаў стамлёныя крылы.

Неўзабаве міма іх прабегла два хутканогіх мурашы. Прабеглі яны зусім побач, але пры гэтым нават не зірнулі ў іхны бок.

— Не з майго мурашніку, — пачуў Дуронік і роспачна — аж зварухнуліся вусікі на лобе — уздыхнуў.

“Якая розьніца — у якім мурашніку жыць”, — падумаў ён той хвіляй і тут жа згадаў, што сам ён паляціць не да чужых чмялей, а да сваіх, родных. Сабраўшыся з думкамі, Дуронік падставіў сьпіну і каротка загадаў:

— Сядай... паляцім”.

“Трэба было вярнуцца на старое месца і паглядзець — адкуль учора дзьмуў вецер. Вавёрчына дупло было закрытае ад ветру, а значыць, дзьмуў ён з супрацьлеглага боку. І калі ляцець у той бок, абавязкова натыкнешся на мурашнік”, — так разважаў чмель, пралятаючы над перасохлай імшарынай. Цяпер ён ужо ляцеў без перадыху і высока над зямлёй — каб не віхляцца між высокай травы і кустоў. У палёце ён добра-такі ўгрэўся — чмялінае футра цёплае, а тут яшчэ сонца прыпякала — і на каляны ліст — той самы, пад якім плакаў мураш, небарака зваліўся амаль што непрытомны. Дуронік доўга ляжаў з закрытымі вачыма, а калі іх раскрыў, дык убачыў высокае неба, разгалістую хвою і цёмную пляму дупла на залацістым ствале. І ў думках сваіх ён быў там, на вяршыні зялёнай кроны і глядзеў у той бок, адкуль узышло сонца і адкуль учора дзьмухнуў віхурны вецер. І калі ён — ужо ня ў думках, а насамрэч — узьляцеў над зялёнай вяршалінай, неба падалося яшчэ больш высокім, а хваёвы ствол асьляпіў вочы залацістым бляскам.

Наперадзе, за ўзьлескам, жаўцела жытнёвае поле, пасярод поля стаяла старая ліпа — вось да яе і трэба было кіравацца.

Калі мураш першым разам залез на сьпіну, чмель амаль не адчуў ягонага цяжару. Цяпер жа сілы пакінулі Дуроніка. Ён ляцеў зусім нізка над зямлёй і асьцё жытнёвых каласоў балюча біла яго па крылах.

Перад тым, як сесьці на зямлю, ён звычайна завісаў у паветры, выглядаючы зручнае месца для пасадкі, а тут адразу ўпаў на ліпавае карэньне, кульнуўшыся разам з мурашом праз галаву.

— Дзядзька Чмель, вы ня ўдарыліся? — закрычаў мураш, падхапіўшыся на лапкі і чмель зморана выдыхнуў: — Не хвалюйся... Я і не з такой вышыні падаў.

Паветра навокал было працята натужлівым гудам, а ліпавы квет, здавалася, варушыўся — столькі там лётала пчол.

У спадзеўцы ўбачыць каго з знаёмых, чмель зірнуў угору і ў той жа міг над галавой ягонай завісьлі неразлучныя сяброўкі — Зімка і Зумка.

— Усё яшчэ лётаеце? — жартаўлівым голасам крыкнула Зімка, а Зумка, даўшы кругаля ў паветры, гэтак жа жартаўліва празумкала: — Адпусьці ты беднага мураша. Хай паўзе ў свой мурашнік.

— Мы той мурашнік якраз і шукаем, — зморана прамовіў Дуронік, а Зумка, ужо сур’ёзным голасам, празумкала: — А чаго яго шукаць. Вунь ён там, на узьлесьсі, непадалёку ад засохлага дуба.

Пчолы зь вясёлым сьмехам паляцелі на пасеку, а нашыя вандроўнікі разам паглядзелі ў той бок, куды паказала зумклівая весялуха.

Жытнёваму полю, здавалася, ня будзе канца. Дуронік тройчы сядаў адпачываць, балюча стукаючыся галавой аб жытнёвыя сьцяблы, нарэшце, поле скончылася, яны праляцелі невялікую выжарыну, заляцелі ў

лес і мураш голасна закрычаў:
— Тобік! Цюбік! Я тут!
Чмель з перапуду рэзка пайшоў уніз і ўжо плюхнуўшыся на зямлю ўбачыў двух мурашоў. Мурашы беглі ствалу гнілога дуба, цягнучы на плячах сухую травінку.
— Цюбік! Тобік!
Мурашы азірнуліся, скінулі з плячэй травінку, рынулі насустрач брату.
— Дуронік, дзе ты быў? — гукнулі браты, а мураш, азірнуўшыся, прыклаў лапку да рта. Ён не хацеў, каб дзядзька Чмель пачуў гэтую крыўдную мянушку. Але чмель пачуў і задаволена пасьміхнуўся. На душы ў яго было радасна. Радасна ад таго, што ён дапамог мурашу знайсьці родны дом і што ягонага сябрука таксама завуць Дуронікам.
— Ідзэмце, я пазнаёмлю вас з дзядзькам Чмялём. Ён толькі што вярнуўся з Аўстраліі! — выгукнуў мураш, абдымаючыся з братамі, але чмель ужо ўзьняўся ў паветра.
— Дзядзька Чмель, куды вы?! — крыкнуў мураш, але ягоны гудлівы сябрук ужо ператварыўся ў маленькую кропку на небе, а потым зьнік зь відавоку.
— Ну што, Дуронік, дапамагай, — сказалі браты і той падставіў плячук пад цяжкую травінку.
Усю дарогу мураш дакараў сябе, што не пасьпеў падзячыць дзядзьку Чмяля, а ўжо ля самага мурашніку пачуў над галавой знакомае гудзеньне.
— Дзядзька Чмель! — узрадавана крыкнуў мураш, але чмель з урачыстым гудам праляцеў міма. Магчыма, ён не пачуў мурашынага голасу, а можа гэта быў зусім іншы чмель. І паколькі ляцеў ён нізка над зямлёй і матляўся ўбокі, мураш падумаў, што той вяртаецца з далёкай Аўстраліі.



# Вечар у "Прэзыдэнт-гатэлі"

Папулярны кінагерой Казадоеў быў, як вядома, зацятым празаходнікам і таму называў мяйсцовую гасьцініцу "Атлянтыка" на заходні манер — гатэлем "Atlantic". У навачаснай Маскве ўсё навокал працята тлятворным казадоеўскім духам, вэстфільская тля апанавала гарадзкую тапаніміку і вось ужо гасьцініца зь мілагучным і палітычна вытрыманымназовам "Кастрычніцкая" переназваная ў "President-Hotel". Перад гэтым самым гатэлем я й паўстаў золкім лістападаўскім адвячоркам, сьціскаючы ў потнай руцэ запрашэньне на дыпляматычнае прыймо.

Патрапіць у гатэль было справай нялёгкаю. Давялося доўга ісьці ўздоўж жалезнага паркану, якім быў абгароджаны "Р-Н", а потым стаяць у чарзе ля КПП, дзе трое маладых міліцыянтаў спраўджвалі дакуманты ў тых, хто пнуўся ўбіцца ў гатэльнае нутро. Акурат перада мной стаяла купка кабетаў бальзакаўскага ўзросту й мужчына бальзакавай зьнешнасьці, у якім я пазнаў былога брэжнеўскага сьпічрайтэра Аляксандра Яўгенавіча Бовіна. Як потым высьветлілася, і кабеты, і былы сьпічрайтэр, і аўтар гэтых нататак ішлі на адну і тую ж імпрэзу.

Фае гатэлю — па-расейску разьлеглае і па-савецку няўтульнае, — калі і магло чым уразіць, дык гэта сваёй публікай, што сноўдалася ўзад-уперад, з флегматычнай абыякавасьцю пазіраючы на шэрыя гатэльныя сьцены. Пры гэтым толькі адзін мужчына — сівагаловы й дарэшты схуднелы — выяўляў халерычнасьць. Мужчына стаяў пасярод фае, гаманіў з падхорцістым шатэнам і, кідаючы захопленыя позіркі на неверагодна тоўстую мурынку, махаў рукамі й штораз паўтараў: "Коллосаль!"

З гіморай гатэльнага заўсёдніка, я падняўся на другі паверх, агледзеўся і пачуў знаёмы голас: — Господин Винченц!

Вокліч такі мог належаць толькі аднаму чалавеку ў сьвеце — сакратару альбанскай амбасады Лігору Цулуфэ — не старому яшчэ, але спрэс сівому мужчыне, зь якім мы тройчы, па-альбанску абняліся.

— Si jeni?*— выдыхнуў мне на вуха сакратар амбасады і тут жа, ужо па-расейску, весела запытаўся: — Как там поживает писатель Черницкий?

У 1994 годзе сп. Цулуфэ прыяжджаў да нас у Наваполацак на літаратурную канфэрэнцыю і там, падчас сяброўскай бяседы, уразіўся творчымі магчымасьцямі згаданага пісьменьніка. Мушу адыйсьці ад асноўнай тэмы і згадаць той задаўны і, па нашых мерках, звышбанальны эпізод. Такім чынам: Аляксандар Чарніцкі таго вечару спазьніўся на бяседу, падбег да нашага стала і я, зразумела, наліў яму штрафную шклянку. Творца яе кульнуў, нечым закусіў, падсеў да другога стала, а альбанскі госьць, які сядзеў побач, таропка паправіў гальштук і прыкметна захваляваўся.

— А что будет с этим господином? — спытаўся госьць пасьля хвіліны одуму.

— З кім? З Чарніцкім?— не зразумеў я і азірнуўся: творца ў гэты час куляў чарговы кілішак.

— А што зь ім павінна стацца?

Сп. Цулуфэ зь лёгкай панікай ўвачча зірнуў на пустую шклянку і я зразумеў прычыну ягонай трывогі. Пісьменьнік Чарніцкі, ва ўяўленьні альбанскага госьця, адным махам выпіў сьмяртэльную дозу.

... — Черницкйй творит... всем смертям на зло, — паведаміў я, ціснучы Лігораву руку, мы засьмяяліся і Лігор, агледзеўшы залю, махнуў рукой: — Jorgo, eja këtu!**

І вось я ўжо ціснў руку знакамітаму паэту і перакладніку, а ў недалёкім мінулым дысыдэнту Ёргу Блацы. Як і многія сумленныя людзі ў Альбаніі, паэт зазнаў смак турэмнай полiўкі і



доўгіх дваццаць шэсьць гадоў працаваў align="right"рознарабочым на ўдарных будоўлях.

— Ёргу за пераклады Пушкіна расейскі ордэн далі, — паведаміў Лігор і паэт незадаволена скрывіўся — ён відавочна не любіў рэклямы.

У гэты момант хтосьці крануўся майго локця.

Гэта быў А. Я. Бовін.

— От души поздравляю, — прамовіў былы сьпічрайтэр, прымаючы мяне за альбанца, пацісьнуў руку і я з удзячнасьцю кіўнуў галавою.

— Ju faleminderit.***

28 лістапада альбанцы адзначаюць сваё галоўнае сьвята — Ditë e Flamurit — Дзень Сьцяга. Менавіта таго дня ў далёкім ужо 1912 годзе іх краіна стала незалежнаю і альбанская амбасада ў Маскве штогоду ладзіць з тае нагоды дыпляматычнае прыймо. Супрацоўнікі амбасады два разы запар прысылалі мне запрашэньне, але ехаць не выпадала, і вось, нарэшце, я стаю ў зырка асьветленай залі і рукаюся з спадаром Вукаем — Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Альбаніі ў Расейскай Фэдэрацыі і, па сумяшчальніцтву, у Рэспубліцы Беларусь.

— Zoti Mudrov nga Bjellorusia,**** — выгукнуў за маёй сьпінай супрацоўнік амбасады; я прыклаўся да рукі высокай белатварай кабеты — жонкі пасла — і мелькам агледзеў залю.

Заля ўражвала. У цэнтры яе, працяўшы высокую столь, пнуліся ўгору нейкія нетутэйшыя расьліны; дзесьці ўвышыні цвыркалі птушкі і гучэла музыка — інструмэнталка з “Порґі і Бэс”; на другім канцы залі, пасярод імправізаванай бэтоннай сажалкі, струменіў фантанчык, і некалькі кабетаў неадрыўна глядзелі ў ваду, выглядаючы, відаць, акварыюмных рыбак. Але што найбольш уражвала, дык гэта даўжэзны стол: ён стаяў па пэрымэтру залі і яго сэрвіроўка індуцыравала ў памяці імя біблейскага Бальтазара. Як я заўважыў, каньяк на стале — каньячныя бутэлькі стаялі роўным шыхтом з дыстанцыяй у мэтар — быў альбанскі, а віно — француская.

Пакуль я лічыў бутэлечныя рыльцы, мяне ізноў узялі пад локаць.

— Вы из Белоруссии? — невысокая жанчына ў дэкальтаванай сукенцы — вочы крыху затуманеныя, грудзі крыху прывялыя — бліснула асьляпляльна-белымі зубамі. — У меня в Минске столько знакомых, столько знакомых... Вы знаете, нас с вами никому не разъединить. Мы одно целое, — кабета ўсхвалявана перавяла дых і шматабяцальна пасьміхнулася.

— Так ужо і нікому,— выдыхнуў я ў адказ і тут жа дадаў: — А ваш муж?

Кабета сумелася і праццяла мяне саркастычна-ацэньваючым позіркам, затрымаўшы вочы на тым месцы, дзе пачынаюцца ногі.

— Мужчины всегда всё не так понимают,— прамовіла дэкальтаваная незнаёмка і падалася глядзець рыбак.

Добрых чвэрць гадзіны я блукаў па залі, чакаючы ўрачыстай часткі, і раптам убачыў, што ўсе навокал, уключаючы і пасла, падымаюць чаркі і пад высокай столлю гучыць альбанскае “Gëzuar!”*****

— Господин Винченц... что ж ты стоишь? — паэт Ёрга Блацы паклаў мне далонь на плячук, падвёў да стала. — Знакомьтесь... учёный-археолог Демосфен Будина. С 1961 года живёт в Москве.

Я знаёмлюся з археолягам і ён налівае ў кілішкі па кроплі бурштынавага напою. Каньяк пахам і смакам нагадвае француcкі “Comus”.

— Приехал в Москву молодым человеком, женился на русской, а когда Никита с Энвером разругались — остался с Союзе, — паведаміў сп. Будзіна і зноў напоўніў чаркі.

— А калі б вярнуліся?

Суразмоўца моўчкі махнуў рукой і нагбом, зусім па-расейску, кульнуў чарку.

Как перавесьці размову ў іншае рэчышча, я пацікавіўся альбанскай археалёгіяй і сп. Будзіна з натхненьнем стаў апавядаць пра антычныя гарады, якія яму давялося раскопваць, пра матэрыяльную культуру іліраў, пра так званую багіню Бутрынта — старажытнагрэцкую скульптуру, знойдзеную ў Альбаніі італійскімі археолягамі, а потым, як бы між іншым, спытаў:

— Вы москвич?

— Jam nga Bjellorusia.

Стары археоляг неяк адразу пасуравеў і неўпрыкмет адышоў убок.

Зрэшты, без суразмоўцы я не застаўся.

— Дарма ваш Лукашэнка абдымаўся з Мілошавічам,— прамовіў

на дзіўнай мешаніне расейскіх і альбанскіх слоў мужчына, які стаяў поруч. — Я прафэсар Прышцінскага ўнівэрсытэту, займаюся паліталёгіяй і мушу сказаць: гэтыя абдымкі карысьці Беларусі не прынясуць.

Я адказаў прафэсару, што з названай асобай ня маю анічога агульнага, мы выпілі па чарцы, закусілі чырвонай рыбай і я зірнуў на бокі. Публіка разьнявлена і даволі гучна гаманіла і сярод гэтага гаманкога збою прыкметна вылучаўся каржакаваты маладзён у клятчастым пінжаку. Маладзён гаманіў гучней ад астатніх і, падобна, быў паважанай асобай: усе навыперадкі імкнуліся зь ім выпіць.

— Хто гэта? — запытаўся ў прафэсара.

Наколькі я зразумеў з адказу, гэта быў касавар, кіраўнік будаўнічай фірмы, якая працуе ў Маскве па кантракту.

— Gani! — крыкнуў прафэсар і маладзён азірнуўся.

— Më lejoni t'ju prezantoj me mikun nga Bjellorusi****** — пачуў я з прафэсарскіх вуснаў і той, каго клікалі Гані, наструнена перабіў: — Lukashenko? — Прафесар ізноў загаварыў, але таропка — я разабраў толькі адно слова "opozitë" і маладзён палагаднеў з твару.

Спытаўшы — на якой мове я размаўляю, Гані наліў мне поўную чарку і на ламанай расейскай мове пачаў казаць, што нам, альбанцам і беларусам, ня варта ваяваць з ЗША ды астатнім цывілізаваным сьветам.

— Альбанія свойчас паваявала, — выдыхнуў, разам з каньячным духам маладзён, — і без штаноў засталася.

Прафэсар на знак згоды кіўнуў галавой і паляпаў спакрэвіча па плячы, маўляў: не чытай лекцый, людзі прыйшлі на сьвята.

Гані ўзяў у мяне нататнік, запісаў нумар тэлефону.

— Будзеце ў Прышціне — званіце. Прыму як роднага брата.

Наступнымі маімі суразмоўнікамі былі доктар гістарычных навукаў, аўтар манаграфіі "Гісторыя Альбаніі" Р. Л. Арш ( "Дзякуй Лукашэнку — ён адзіны ня здрадзіў нашаму братэрству"); маладая альбанская паэтка Мірэля Спахіў ( "Якуб Колас — гэта ваш?"); рэдактарка альбанскай рэдакцыі радыёстанцыі "Голас Расеі" Лілія Мілько ("Перакладзіце на беларускую мову Ёрга Блацы. У яго папросту геніяльныя вершы"), нарэшце, маскоўскі мастак Аўген Молакаў, творы якога экспанаваліся ў Альбаніі ("Прыходзьце заўтра на Кузьнецкі — паглядзіце мае новыя рэчы").

Размаўляючы з мастаком, сьпінай адчуў нечы пагляд. Кабета, што мела шмат знаёмцаўменчукоў, глядзела ў мой бок, а поруч зь ёю тоўкся яшчэ нехта, апранены ў шчыгульны "дыпляматычны" гарнітур. Гэты "нехта" неўзабаве апынуўся каля мяне.

— Вы из Минска, да? Я слышал ваш разговор с господином Будиной и захотел с вами познакомиться.

— А вы, відаць, з ФСБ? — запытаўся я, кульнуўшы апошні кілішак, і "нехта" дарэшты няўпэўненым голасам прамармытаў:

— С чего вы взяли?

Напятае маўчаньне перарваў залівісты жаночы сьмех. Тыя самыя кабеты бальзакаўскага веку, якіх я сустрэў на КПП, віселі на шыі Лігора Цулуфэ і, перабіваючы адна другую, гукалі: — Лігор, дай я цябе пацалую!

Сакратар амбасады пры гэтым пачуваў сябе ніякавата. Дый дзіва што — у ягонай, напаўмусульманскай краіне жанчыны, ды яшчэ сталага веку, на шыях у чужых мужоў ніколі ня віслі.

— Мяне ж адзін альбанец пакахаў, студэнт пятага курса, — паведаміла, з настальгічным прыдыханьнем, адна з кабет, — пісаў мне потым лісты, а я не адказала.

— Работали когда-то в Албании, — патлумачыў сп. Цулуфэ, адбіўшыся ад кабет і працягнуў мне торбу з пляшкай альбанскага каньяку: — Выпьешь за наше здоровье...

Ля шатні мяне пераняў усё той жа фацэт у шчыгульным гарнітуры.

— Адресок свой всё-такі дайте.

Я дастаў нататнік, сьпехам напісаў: "гор. Минск, пр-т Ген. Булак-Балаховича... М. А. Стрекопытову", аддаў "адресок" фацэту і выйшаў з гатэлю.

Знадворку гула, сьвяціла агнямі і сьмярдзела выхлапным чадам Вялікая Якіманка — адна з цэнтральных маскоўскіх вуліц. Каб пазбыцца замарачнага шуму, я завярнуў у завулак і ўзьбіўся на гранітную набярэжную. Тут было суцішна і прыцемна; па рацэ плыў серабрысты шарон і жоўтыя адбіткі ліхтароў сьвятлявымі афіюрамі варушыліся ў цёмнай вадзе. Праваруч ад мяне грувасьцілася нейкая цёмная гаргара — прыглядзеўшыся, пазнаў цэрэтэлеўскі помнік Пятру, — а леваруч, на тле нэонавай заранiцы, напятымі струнамі зьвінелі ванты Крымскага маста.

Рака з урачыстай павольнасьцю плыла перад вачыма і мне — упершыню ў жыцьці — закарцела плюнуць на ўсё, пазбыцца трывог і вось так жа, ні аб чым не шкадуючы, з крывой усьмешкай на твары, глядзець на жыцьцё, якое праплывае міма. Я ўздыхнуў, паправіў капялюш, рушыў па набярэжнай і бронзавы Пятро — колішні гаспадар тутэйшых мясьцін — доўга глядзеў мне ўсьлед, пукатым вокам сьвідруючы цемру. ***Вінцэсь Мудроў***

**Як маесься? (альб.)*

***Ёрга, ідзі сюды (альб.)*

****Дзякуй (альб.)*

*****Спадар Мудроў зь Беларусі (альб.)*

******Будзьма здаровы! (альб.)*

*******Дазволь табе прадставіць сябра зь Беларусі... (альб.)*

# АПОШНЯЯ ВОСЕНЬ

Штогоду, калі жаўцеюць ясені, калі яшчэ цёплы, але па-восеньску рэзкі вецер зь Дзьвіны шугае пад ногі каляную лістоту і сонечны кругабег паволі пакідае бестурботную Панну, у Полацку ладзіцца сьвята Скарынавай кнігі. Там, у цэнтры старажытнага, але безнадзейна правінцыйнага места, пад помнікам Першадрукару, фатальны лёс намаляваў калісьці сваё зачараванае кола.

I кожнага году, на Скарынава сьвята, прыежджыя члены Саюзу пісьменьнікаў і іх мясцовыя браты станавіліся па пэрымэтру кола, займаючы сакрамэнтальных 40 градусаў акружнасьці, і прамаўлялі адны і тыя ж напышлівыя, а таму няшчырыя словы. А ў цэнтры кола, сярод нешматлікага людзкога збою, тырчэла — як гэта бачна на старых фотаздымках — і мая галава. У патыліцу мне звычайна дыхаў шчыгульна паголены маладзён у шэрай тройцы, і варта было толькі адысьці ўбок, як маладзён валокся сьледам, і жонка, якая, часам, таксама завітвала са мною на сьвята, потым доўга ўздыхала і задавала шчымлівае і, як той маладзён, назолае пытаньне: чаму я не жыву як усе нармальныя людзі? “Ты бачыў, каб хто зь беларускіх паэтаў лез у палітыку? — пыталася жонка, — ты пагледзі на іх. Ды гэта проста халяўшчыкі, якія прысмакталіся да беларускай мовы, уступілі ў партыю, атрымалі сталічныя кватэры і цяпер п’юць, у працяг сьвята, дармавую гарэлку ў полацкім рэстаране”.

Зрэшты, бяседзе папярэднічала яшчэ адно мерапрыемства: сустрэча з чытачамі ў Гарадзкім доме культуры. Да таго часу госьці ўжо пасьпявалі кульнуць чарку, а аднойчы — я быў сьведкам — адзін празаік нават заснуў у залі. Але — аддамо належнае творцу — пачуўшы сваё прозьвішча, вомігам падхапіўся на ногі. Вядучы сустрэчы запозьнена замахаў рукамі, маўляў, сядзі, ня варта выступаць, але творца паўстаў як тая скала ў Бэль-Іль, пайшоў па праходу, пару разоў матлянуўся, прымусіўшы пужліва адхінуцца дзяўчын, што сядзелі ля прахода і — у мёртвай цішыні! — спыніўся ля прыступак, якія вялі на сцэну. “Ня трэба!”— бязгучна гукалі калегі. “Хлусіце! Я яшчэ м-магу”,— гэтак жа бязгучна адказваў творца. Ён ступіў на прыступку, потым на другую, яшчэ раз хітнуўся і калі ўражлівыя гледачы ўжо змадэлявалі ягонае падзеньне ў аркестровую яму, узышоў на сцэну, сарваўшы бурныя воплескі.

I вось яно, Скарынава сьвята AD MM.Распалася заганнае кола. Высілкам загадчыка мяйсцовага аддзелу культуры на пляцы ўтворана quadratura. Пісьменнікі сядзяць у крэслах, гледачы стаяць вакол зграбным паўкарэ, і Першадрукар задуменна глядзіць на пісьменьніцкія плехі з высокага пастамэнту.

Нейкі паэт чытае свае панічна-патасныя і палітычна абачлівыя вершы; празаік — аўтар партызанскай эпапеі, якую прачыталі толькі выпускаючы рэдактар ды карэктар, з натхненьнем, якому пазайздросьціла б сама Ніна Чайка, прамаўляе аб славянскім братэрстве; чыноўнік Дзяржкамдруку апавядае ў мікрафон аб той увазе, якую надае беларускаму кнігавыдавецтву Ўсенароднаабраны Прэзыдэнт; а над галавой маёй тым часам наразае колы гудлівы чмель. Нагудзеўшыся дасхочу, чмель пляскаецца на прывялую ад начнога холаду аксамітку, тыцкаецца хабатком — раз, другі, марна шукаючы нэктару і пералятае на другую кветку.

—... Яскравым сьведчаньнем дзяржаўнай турботы аб разьвіцьці беларускай культуры зьяўляецца той факт, што школьныя бібліятэкі забясьпечваюцца кнігамі бясплатна...

Мне становіцца яго шкада. Не, не чыноўніка Дзяржкамдруку, а гудлівага нястомнага працаўніка, што завіхаецца на кветніку. Чмяліны век кароткі. Яшчэ пару тыдняў і ён змарнее на ранішнім холадзе і восеньскі вятрыска панясе яго, выпетранага і бязважкага, па пыльных вуліцах.

Ды што там чмель... Хутка і мая душа зьляціць у нябыт. Кучаравы, з дурасьлівым тварыкам анёлак, падхопіць яе пад паху, махне празрыстымі крыламі і панясе — туды, у верхнія слаі атмасфэры. Бляклым срэбрам адаб’ецца пад крыламі Дзьвіна, мільгнуць асмужаныя атрутным наваполацкім дымам вежы Сафіі і ў паветры старэчымі пархамі закружыць першы сьнег.

Ну а пакуль няўрымсьлівая душа і стамлёная цела яшчэ жывуць адно ў адным, пакуль доўжыцца гэты дзіўны сымбіёз і пакуль нябачны для вока анёлак сядзіць на маім правым плячы і, пазяхаючы, слухае прамову таварыша з Дзяржкамдруку, запомнім гэтую восень — апошнюю восень тысячагодзьдзя. Запомнім яе фарбы, зыкі, пахі: гаркавы пах дыму ў нетрах гарадзкога парку, шорхат калянага лісьця пад нагамі, сонныя кастрычніцкія дасьвецьці, птушыны грай над голым полем і зацятае кружэньне небаракі-чмяля па-над рудымі кветкамі.

**VM**



Інфармацыйнае выданьне
Грамадзкага Аб’яднаньня Культурніцка-Асьветніцкіх Ініцыятываў “УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ”.
Распаўсюджваецца на правах рукапісу.
Адрэса для допісаў:211440.Наваполацак-8,п\с № 26